30 красавіка 1999 г. пятніца

# НАВІНЫ

№46 (577) кошт свабодны




# Што гэта было?

## Вялікі сакрэт двух славянскіх правадыроў

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Візіт Аляксандра Лукашэнкі 28 красавіка ў Маскву стаў бадай што найбольш супярэчлівым і загадкавым за ўсё гісторыю сустрэчаў беларускага і расійскага прэзідэнтаў. Пасля яго заканчэння Лукашэнка выказаў незадавальнне тэмпамі «інтэграцыі» дзвюх дзяржаваў. Расія, па ягоных словах, яшчэ не гатовая да стварэння з Беларуссю канфедэрацыі.

Беларускі прэзідэнт ляцеў у Маскву з цвёрдым намерам падпісаць з гаспадаром Крамля радыкальнае пагадненне аб стварэнні адзінай саюзнай дзяржавы. Распрацаваны адміністрацыяй Лукашэнкі праект саюзнай дамовы прадугледжваў заснаванне пасады кіраўніка гэтай новай дзяржавы і іншых наднацыянальных органаў. Беларускі інтэгратар таксама хацеў сур'ёзна абмеркаваць з Ельцыным праблему далучэння да іх саюза Югаславіі, аб чым Лукашэнку прасіў «сябар Слабадан».

Перад пачаткам перамоваў расійскі лідэр заявіў, што будзе абмяркоўваць з беларускім калегам толькі самыя прынцыповыя пытанні «нашага будучага саюза». Маўляў, няма часу прэзідэнтам вырашаць нейкія дробязі. Напярэдадні гэтай сустрэчы з'явілася інфармацыя, што праект саюзнай дамовы павінен быць распрацаваны да 1 чэрвеня. Аднак пасля яе заканчэння стала вядома, што Лукашэнка і Ельцын падпісалі толькі 11 пагадненняў пад гучнай назваю «канцэпцыя далейшага яднання Беларусі і Расіі». Дакументы тычацца бяспекі саюза, памежнай палітыкі, абароннага заказу, святкавання ў абедзвюх краінах агульных святаў. Прэзідэнты таксама заснавалі прэміі саюза ў галіне літаратуры і мастацтва і прызначылі кіраўнікоў саюзнай мытні і памежных войскаў. Прычым абедзве гэтыя пасады дасталіся расіянам. Саюзнымі памежнікамі будзе кіраваць шэф аналагічнага ведамства Расіі Канстанцін Тоцкі, а мытнікамі — былы ельцынскі адміністратар Мікалай Бардзюжа.

Пасля сустрэчы сам-насам Лукашэнка і Ельцын дэманстравалі поўнае адзінства і паразуменне. Расійскі прэзідэнт папрасіў беларускага сябра пацвердзіць, што паміж імі ніякіх рознагалоссяў няма. «Так, пакуль няма», — з ледзь прыхаваным раздражненнем вымавіў Лукашэнка. Дзеля таго, каб хоць неяк задобрыць партнёра-інтэгратара, Барыс Мікалаевіч пераключыўся на абарону Лукашэнкі ад маскоўскіх журналістаў. Ківаючы ў бок прадстаўнікоў СМІ пальчыкам, Ельцын заявіў: «Не дай Бог вам крытыкаваць Беларусь і Лукашэнку, будзеце мець справу са мною». Аднак такія пагрозы састарэлага крамлёўскага лідэра выглядалі досыць камічна. Часам здавалася, што Ельцын нават не чуе, пра што ў яго пытаецца Лукашэнка, і думае аб нечым сваім. Засталося адкрытым і пытанне прыёму Югаславіі ў саюз Беларусі і Расіі. Ельцын заявіў, што просьба Мілошавіча будзе вывучацца і далей, але пакуль ніякіх кардынальных рашэнняў па гэтым пытанні прэзідэнт прымаць не будзе. Беларускі і расійскі лідэры вырашылі пачакаць з прыёмам «балканскага брата» да заканчэння вайны. Дарэчы, перад сустрэчай у Крамлі Лукашэнка правёў сакрэтныя перамовы з братам Слабадана Мілошавіча, Барыславам, які ўзначальвае югаслаўскую амбасаду ў Маскве. Цяпер Мінск і Бялград будуць шукаць іншыя шляхі, каб пераканаць Маскву прыняць Югаславію ў саюз.



Сустрэўся беларускі прэзідэнт і са сваім даўнім сябрам і настаўнікам прэм'ерам Прымаковым. Падрабязнасці гэтай сустрэчы Лукашэнка асабліва не афішаваў. Па ягоных словах, «з самым паслядоўным расійскім прыхільнікам саюза Прымаковым» яны абмеркавалі канкрэтныя механізмы выканання ўжо падпісаных пагадненняў.

Калі ў Крамлі Лукашэнка быў вымушаны хоць неяк дэманстраваць задавальненне вынікамі перамоваў, то, пакінуўшы яго сцены, беларускі прэзідэнт даў волю пачуццям. Лукашэнка прызнаўся, што расчараваны перамовамі. Яму не ўдалося навязаць Расіі свой план інтэграцыі. Замест стварэння саюзнай дзяржавы з адзіным прэзідэнтам, урадам, парламентам і сілавымі структурамі Масква абмежавалася больш стрыманым варыянтам саюзнай дамовы. Калектыўным кіраўніком новага саюза, паводле расійскага плана, павінен быць Вышэйшы Савет, які Лукашэнка параўнаў з савецкім палітбюро, і іншыя міждзяржаўныя структуры з размытымі і няяснымі паўнамоцтвамі. На думку некаторых прадстаўнікоў адміністрацыі Лукашэнкі, Крэмль наўмысна зацягвае інтэграцыйны працэс, бо там, як лічаць беларускія чыноўнікі, шукаюць варыянт, пры якім Барыс Ельцын стаў бы кіраўніком аб'яднанай дзяржавы. А вось Лукашэнку чакаць няма калі, бо ў чэрвені ён становіцца нелегітымным. Таму, па некаторых звестках, Лукашэнка быў гатовы аб'яднаць Беларусь з усходнім суседам ужо да ліпеня і нават прапаноўваў Ельцыну з гэтай нагоды правесці рэферэндумы. У інтэрв'ю праграме «Герой дня» тэлекампаніі НТВ Лукашэнка заявіў, што пойдзе на рэферэндум толькі ў тым выпадку, калі паўстане пытанне стварэння рэальнай дзяржавы і звязанага з гэтым змянення канстытуцыі Беларусі. Відавочна, што чарговая паездка Лукашэнкі ў Маскву была не зусім паспяховай. Аднак зразумела, што такі падвешаны стан цягнуцца да бясконцасці не можа. Перад Лукашэнкам маячыць дата 20 ліпеня, калі скончыцца тэрмін яго паўнамоцтваў, а над Ельцыным вісіць цень імпічменту. Таму, відаць, прымаць нейкае рашэнне аб будучыні «славянскага саюза» ім прыйдзецца даволі хутка. ■

(Працяг тэмы на стар.3)

## Беларусь – заноза на целе Захаду

### ЗША гатовыя выкарыстаць увесь арсенал эканамічных «інструментаў», каб паўплываць на Лукашэнку і палітыку Ельцына ў дачыненні Беларусі.





**Адначасова ў Вашынгтоне і Страсбургу прайшлі слуханні па Беларусі. У амерыканскім Кангрэсе рабіў даклад каардынатар Хартыі'97 па міжнародных справах Андрэй САННІКАЎ. Тым часам кіраўнік дэлегацыі Вярхоўнага Савета Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА прымаў удзел у дыскусіі па Беларусі ў Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. 28 красавіка яны вярнуліся у Мінск. Наш карэспандэнт Алесь ДАШЧЫНСКІ сустрэўся з імі ў мінскім аэрапорце. Спадары Саннікаў і Лябедзька распавялі, чаго чакаць Беларусі ад міжнароднай супольнасці ў бліжэйшай перспектыве.**

# Мільён адной купюрай

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**З сённяшняга дня афіцыйна ўводзіцца ў абарачэнне разліковы білет вартасцю адзін мільён рублёў. Пра гэта паведаміла ўпраўленне інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі.**

Банкнот вытрыманы ў сіне-зялёнай колеравай гаме. Па сваім памеры мільённая купюра не адрозніваецца ад 500-тысячнай. З пярэдняга боку банкнота змяшчаецца выява Мастацкага музея Беларусі. З адваротнага — фрагмент карціны вядомага беларускага мастака І.Хруцкага «Партрэт невядомай з кветкамі і садавінамі». Банкнот мае шмат ступеняў абароны, у тым ліку — абаронную металічную ніць, а таксама вадзяны знак: букет кветак у вазоне.

Надпісы на пярэднім боку рэльефна выдзеленыя і добра ўспрымаюцца навобмацак. У арнаментальнай паласе, калі паглядзець на банкнот пад касымі промнямі святла, можна пабачыць схаваную абрэвіятуру «РБ» — Рэспубліка Беларусь. На жаль, нам пакуль не ўдалося знайсці выяву мільённай купюры: яе няма нават ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка. Тым болей, што па ранейшым вопыце вядома: першыя дні не варта шукаць новы банкнот у ашчадных касах ці крамах, рэальна ён з'ўляецца ў абарачэнні крыху пазней. ■

## Гарачая лінія

### Заўтра — зноў масавая акцыя

Мінгарвыканкам дазволіў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) і Беларускаму кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў правядзенне супольнай першамайскай дэманстрацыі па праспекце імя Скарыны, ад будынка Дзяржаўнага цырка да плошчы Незалежнасці. Арганізатары запрашаюць усіх людзяей працы прыняць удзел у акцыі, каб выказаць рашучы пратэст супраць збяднення беларускага народа. Збор дэманстрантаў у суботу, 1 траўня, у 10:00 у скверы імя Янкі Купалы.

***Аляксей ШЫДЛОЎСКІ***

### Прэм'ер-міністры краінаў СНД едуць у Крым

Пасяджэнне кіраўнікоў урадаў краінаў СНД адбудзецца 4 чэрвеня ў Крыме. Пра гэта паведаміў, выканаўчы сакратар СНД Юрый Яраў. Паводле ягоных словаў, на паседжанні будуць разгледжаныя пытанні рэфармавання кіраўнічых структураў СНД. У прыватнасці, апарат кіравання будзе скарочаны з 1300 чалавек да 710. Міждзяржаўны эканамічны камітэт (МЭК) таксама будзе скарочаны, а затым пераўтвораны ў Эканамічны савет СНД, у склад якога ўвойдуць віцэ-прэм'еры краінаў-удзельніцаў.

***БелаПАН***

## НАДВОР'Е




1 траўня па **Брэсцкай** і **Гомельскай** абласцях месцамі дажджы, вецер заходні, 6—11, парывы да 14 м/сек. У нядзелю надвор'е істотна не зменіцца, па большай частцы дажджы. Па **Мінскай** вобласці 1 траўня воблачна з праясненнямі, месцамі кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні, 6—11, парывы да 14 м/сек. У нядзелю па большай частцы тэрыторыі дажджы. Па **Магілёўскай** і **Віцебскай** абласцях 1 траўня кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні, 6—11, парывы да 14 м/сек. У нядзелю па Магілёўскай вобласці без зменаў. Па Віцебскай тэмпература будзе 9—14 градусаў. 1 траўня па **Гродзенскай** вобласці на большай частцы тэрыторыі дажджы. Вецер заходні 6—11, парывы до 14 м/сек. Тэмпература паветра 10—15 градусаў. У нядзелю надвор'е не зменіцца.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**400 000**

ПЯТНІЦА



З МІКАЛАЕМ ХАЛЕЗІНЫМ

## Транспортная элегия

Вчера в трамвае мужчина женщине на ногу наступил. Та огрызнулась. Мужик в ответ. Подключились соседи – бабушка с узлом за плечами и молодой парень в очках. Через две остановки почти весь салон проклинал... первого белорусского президента. Тихий ропот в защиту главы государства семейной пары пожилого возраста был подавлен в зародыше. Я выслушал несколько историй о тяжелых судьбах соотечественников; диагноз, поставленный одной из пассажирок в 9-ой больнице; сведения о заработной плате на четырех-пяти минских предприятиях; две версии смерти Геннадия Дмитриевича Карпенко и три варианта исчезновения Тамары Винниковой. Приз за самую оригинальную тираду выиграл нечистый бомж, обвинивший Александра Лукашенко в развязывании войны на Балканах.

Революция продолжалась недолго. Спустя 3-4 остановки, когда лидеры народного бунта покинули салон трамвая, все стихло. Наступила послевоенная апатия...

Я покинул общественный транспорт с сожалением. Было приятно видеть азарт борьбы с оппонентами и огонек в глазах соотечественников. Они не жаждали крови, – они жаждали перемен. Почувствовалось, как большинству людей надоел их лидер. Просто надоел.

Вспомните, как мы жили в эпоху «белорусского ренессанса» с 1991 по 1994 год. Вроде и номенклатура опостылела, и денег не хватало, но жилось веселее. Как-то радостнее жилось. Кто в Польшу ездил за товаром, кто из Турции с товаром. Каждый день новые магазины и рестораны открывались. Дети начали родителям помогать. Коттеджи и дачи росли, как грибы. Выборы демократические стали проводиться... Вот на них мы и погорели.

Выяснилось, что выбирать мы не научились. Яблоки и бананы кое-как научились, а главу государства и свое будущее – нет. Мы к выбору президента подходим, как к лотку с бананами. Если свежий мужичок, да еще с усами, то годится. И невавжно, что у него там внутри. А у видных да усатых внутри частенько гнильца.

Ну да ладно. Все проходит, – пройдет и это. Жизнь когда-то снова станет веселее, выбирать, даст Бог, научимся, азартный блеск в глазах появится... Только вот дожить бы. Не отравиться насмерть этим гнилым бананом, таким крепким снаружи.

## Зялёна-чырвоны алерген

Аляксандр ДУБАЎ

Нечаканыя праяўленні дае раскол нашага грамадства, што пачаўся і пашыраецца пасля прыходу да ўлады А.Лукашэнкі. Апошнім часам тыя легкавыя аўтамабілі, на якіх красуюцца чырвона-зялёныя наклейкі BY з імітацыяй узораў «бэсэсэраўскага» сцяга, становяцца ахвярамі патрыятычна настроеных беларускіх тынэйджараў. Доўгая глыбокая крывая паласа ўздоўж усяго борта, праведзеная цвіком, альбо нецэнзурнае слова на капоце – вось імгненная плата за празмерную вернападданасць уладальніка аўтамашыны. Правапарушальнікаў не хвалюе, што ахвяра нават не ведае, што пакараная. Можна зразумець адчай аднаго ўладальніка BMW, якому давялося перафарбоўваць сваю машыну ажно тры разы, пакуль на сервіснай станцыі яму не параілі саскрэбці наклейку.

У апраўданне тынэйджараў трэба сказаць, што гэтыя чырвона-зялёныя плямы на аўтамабілях выглядаюць брыдка, зробленыя безгустоўна і халтурна. Як ведаюць усе мастакі – чырвоны і зялёны колеры, калі стаяць побач, узмацняюць адзін аднаго, рэжуць вока і выклікаюць алергію. ■

СПОРТ

## У добры шлях!

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У нядзелю хакеісты Беларусі выйдуць на лёд супраць расіян. На працягу шаснаццаці дзён, пачынаючы з заўтрашняга, у Нарвегіі будзе праходзіць чэмпіянат свету па хакеі з шайбай у групе «А», якая з'яўляецца самай моцнай. У гэтым самым прэстыжным штогадовым хакейным турніры другі раз у сваёй гісторыі будзе ўдзельнічаць і зборная Беларусі.

Мінулагодняя вандроўка ў Швейцарыю скончылася для беларусаў досыць паспяхова. Выйшаўшы ў фінальную частку турніру, нашая зборная заняла там сёмае месца, што з'явілася вельмі ўдалым дэбютам, які да таго ж дае права выступіць у групе мацнейшых і ў гэтым годзе.

Удзельнічаць у чэмпіянаце будуць 16 наймацнейшых хакейных зборных, падзеленых на 4 групы па 4 каманды. Беларусы патрапілі ў вельмі моцную групу разам са зборнымі Расіі, Фінляндыі і Украіны. Першы матч з расіянамі стане ў многім вызначальным у далейшым турнірным лёсе нашай каманды і пройдзе ў нядзелю, 2 траўня. Гэтую, як і ўсе астатнія гульні каманды, у прамым эфіры будзе транcляваць Беларускае тэлебачанне.

Напярэдадні ад'езду галоўны трэнер каманды Анатоль Варывончык, каментуючы перспектывы зборнай, не выказваў залішняга аптымізму. Галоўнай задачай, па яго словах, з'яўляецца захаванне месца ў групе мацнейшых і на будучы год. Пажадаем нашым хлопцам поспехаў у Нарвегіі! ■

## Хождение с урнами узаконили

Вадим КАЗНАЧЕЕВ

**Центральная избирательная комиссия под председательством Виктора Гончара определила порядок голосования на президентских выборах 16 мая.**

В постановлении «О порядке голосования на выборах Президента Республики Беларусь» Центризбирком отметил, что государственные органы отказываются предоставить в распоряжение избирательных комиссий помещения и оборудование, необходимые для проведения выборов. Таким образом, «голосование в специально отведенных помещениях, оборудованных в достаточном количестве кабинами или комнатами для тайного голосования», организовать невозможно – а «конституционные права граждан на избрание Президента Республики Беларусь» должны быть обеспечены.

Исходя из этого, Центризбиркомом постановил: до 16 мая «согласовать с избирателями, которые по уважительным причинам не могут прибыть в помещения для голосования, возможность организации голосования по месту пребывания избирателей в день выборов». При этом, согласно постановлению, просьбу о том, чтобы им обеспечили возможность проголосовать по месту пребывания, избиратели могут высказывать как в письменной, так и в устной форме. ■

## «Дыпламатычны прыём» у псярні

Алег САКАЛОЎ, БелаПАН

У адпаведнасці з планам працы міністэрства абароны з ваенна-дыпламатычным корпусам замежных дзяржаваў, для ваенных аташэ было арганізаванае наведванне Кіналагічнага цэнтра, размешчанага ў Калодзішчах пад Мінскам. Ваенныя аташэ ЗША, Германіі, Францыі, Кітая, Польшчы, Расіі і Украіны азнаёміліся са спецыфікай дзейнасці падраздзялення, якім камандуе палкоўнік Уладзімір Кацнельсон, умовамі жыцця і бытам вайскоўцаў і службовых сабакаў. ■

## Ліберальнае «Отечество»

Язэп СІНІЦКІ

Дзіўнае палітычнае аб'яднанне адбылося нядаўна ў Мінску. Кіраўніцтва ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі і беларускага саюза «Отечество» падпісалі 27 красавіка сумесную заяву аб супрацоўніцтве.

Беларускія ліберал-дэмакраты і члены мясцовай філіі расійскага «Отечества» збіраюцца разам адстойваць суверэнітэт Беларусі, а таксама свабоду і дэмакратыю ў нашай краіне. Верныя «агульначалавечым каштоўнасцям» дзве гэтыя партыі збіраюцца разам супрацьстаяць прыходу да ўлады ў Беларусі чырвона-карычневых і іншых экстрэмістаў і не дапусціць уцягванне беларускага народа пад сцягам інтэрнацыяналізму ў Балканскі крызіс.

Вядома, што ЛДПБ стваралася ў Беларусі па ўзоры вядомай расійскай партыі Жырыноўскага, а беларускае «Отечество» фактычна з'яўляецца аддзяленнем палітычнага саюза амбітнага маскоўскага мэра. Цікава, што ў Расіі Уладзімір Вольфавіч з Лужковым з'яўляюцца непрымірымымі палітычнымі апанентамі. Мэр Масквы лічыць Жырыноўскага экстрэмістам і не жадае мець з ім ніякіх справаў. У Беларусі, відаць, усё інакш, і члены нядаўна створанай лужкоўскай партыйнай філіі вельмі хутка знайшлі паразуменне з мясцовымі ліберал-дэмакратамі. ■

## Сустракаўся з Ганчаром? Ідзі ў дурдом!

Зміцер ЛІХТАРОВІЧ

Хваравітае ўспрыманне беларускімі ўладамі ўсяго, што тычыцца прэзідэнцкіх выбараў 16 траўня, знайшло чарговае адлюстраванне ў Гомелі. Прычым падобна на тое, што робіцца спроба аднавіць адпрактыкаваны савецкі метад барацьбы з дысідэнтамі – псіхіятрычныя рэпрэсіі.

Гомельская абласная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу супраць старшыні мясцовага аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта Яўгена Мурашкі. Яго абвінавачваюць у паўторным правядзенні несанкцыяванага масавага мерапрыемства. Гэткім мерапрыемствам («несанкцыяваным сходам») пракуратура палічыла сустрэчу гомельцаў са старшынёю апальнай Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктарам Ганчаром, якую больш за 2 месяцы таму арганізоўваў Я.Мурашка. Законных падставаў для развіцця крымінальнай справы няма, і следства, як лічыць старшыня Гомельскага БХК, знаходзіцца ў тупіку. Меншавіта гэтая акалічнасць, на думку Мурашкі, стала прычынаю таго, што следчы Мікалай Шатанаў хоча схіліць Я.Мурашку да неабходнасці прайсці псіхіятрычную экспертызу.

Яўген Мурашка заявіў, што не мае намеру згаджацца на гэтую экспертызу. Ён упэўнены, што вынікі медыцынскага агляду будуць сфабрыкаваныя. Грамадскага дзеяча прызнаюць вар'ятам, і гэта дасць магчымасць бязбольна спыніць дутую крымінальную справу. ■

## ЦЫТАТА НУМАРА

***Мясо есть всех видов, всех сортов. Яйцами уже отболели... Со вчерашнего дня пошло молоко.***

*Владимир ЕРМОШИН*
*Коллегия Кабинета министров, 27 апреля 1999г.*

## СУДОВЫ ПРАЦЭС

### НАВІНЫ ў судзе

Аддзел інфармацыі

На гэтым тыдні ў судзе Партызанскага раёна Мінска слухалася справа па прэтэнзіях кіраўніка клуба «Спадчына» А. Белага да НАВІНАЎ. Як раней газета паведамляла чытачу, Белы ў сваёй іскавай заяве ад 24 лютага за нібыта зняважаныя дзвюма газетнымі публікацыямі ягоныя «гонар і вартасць» патрабаваў ад газеты ў якасці кампенсацыі 500 000 000 рублёў.

26 красавіка, калі распачаўся судовы працэс, Белы павялічыў суму іску за «маральны ўрон» у шэсць разоў – да 3 000 000 000 (трох мільярдаў!) рублёў.

Пры разглядзе справы Белы запэўніваў, што ўстановіць чыгунны помнік ва ўрочышчы Курапаты, не зважаючы ні на што, і мае папярэднюю згоду на блаславенне помніка (кіраўніком праекта якога сябе называе) ад мітрапаліта Філарэта, які, па словах Белага, ёсць ягоны сваяк па лініі жонкі.

Судовы працэс перапынены і будзе працягнуты, калі прыйдуць адказы на запытанне суда ў міністэрства культуры пра дазвол на ўстаноўку помніка ў Курапатах суполкам або прыватным асобам. ■

## Скончыў жыццё самаспаленнем

БелаПАН

У Калінкавічах Гомельскай вобласці ў двары свайго дома скончыў жыццё шляхам самаспалення дырэктар мясцовай птушкафабрыкі. Як паведаміў Калінкавіцкі міжраённы пракурор Уладзімір Судас, па гэтым факце праводзіцца праверка; пакульняма падставаў для ўзбуджэння крымінальнай справы. Аднак, як сведчаць родныя нябожчыка, ён, прыняўшы на сябе кіраўніцтва фабрыкай, знайшоў асобныя недахопы ў бухгалтарскай дакументацыі. На думку родных, ракавы ўплыў на ягонае рашэнне магла аказаць чарговая кампанія па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, асвятленнем якой апошнім часам захапляецца Беларускае тэлебачанне. Уладзімір Судас падкрэсліў, што пракуратура пакуль не гатовая пракаментаваць гэтую версію, і папрасіў пачакаць заканчэння праверкі, на якую адводзіцца цэлы месяц. ■

## «Тэлефон даверу» не маўчыць

БелаПАН

На працягу месяца з моманту пачатку працы ў міністэрстве ўнутраных справаў «тэлефона даверу» яго скарысталі каля 130 грамадзянаў. У першую чаргу грамадзяне жадалі атрымаць кансультацыі адносна працэдуры падачы заяваў пра ўчыняемыя злачынствы і правапарушэнні, тлумачэнні па пытаннях рэагавання органаў унутраных справаў на розныя з'явы грамадскага жыцця. Аб'ём такіх зваротаў склаў дзве трэці ад агульнай колькасці зарэгістраваных. У прэс-цэнтры МУС адзначылі, што любая інфармацыя, якая мае аператыўны інтарэс і датычыцца асобных накірункаў службовай дзейнасці органаў унутраных справаў, накіроўваецца для разгляду ў адпаведныя падраздзяленні. За аналізуемы перыяд 6 зваротаў накіравана для дадатковай праверкі і прыняцця канкрэтных захадаў; амаль кожная другая інфармацыя стала прадметам вывучэння на адпаведных узроўнях. «Тэлефон даверу» з'явіўся ў МУС у сакавіку па рашэнні новага міністра генерала Юрыя Сівакова. ■

## 13 сутак арышту за «мітынг»

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

У аўторак старшыня прафсаюза гродзенскага рэчавага рынка «Паўднёвы» Валеры Леванеўскі атрымаў 13 сутак арышту за нібыта арганізаваны ім несанкцыяваны мітынг на ганку гарвыканкама.

Паказанні сведкаў, у тым ліку міліцыянтаў, і аператыўны відэазапіс абвяргалі абвінавачанне. Толькі адзін з міліцэйскіх афіцэраў упарта сцвярджаў, што В. Леванеўскі, якога міліцыя не пушчала ў гарвыканкам, «мітынгаваў». Гэтага стала дастаткова, каб, насуперак паказанням усіх астатніх сведкаў, засудзіць прафсаюзнага кіраўніка. ■

## Беларускі калегіюм запрашае на публічныя лекцыі

**4 траўня**
Прэзэнтацыя даведніка «Беларуская апазіцыя 1944–1991 гг.» з удзелам рэдактара Алега Дзярновіча і аўтараў.

**11 траўня**
Максім Жбанкоў «Беларуская контркультура: сучасны стан і пэрспэктывы».

**18 траўня**
Кастусь Тарасаў «Улада і маніпуляваньне рэлігійнымі пачуцьцямі вернікаў».

**25 траўня**
Генадзь Цыхун «Фэномэн сучаснай беларускай мовы: экалінгвістычны кантэкст».

**Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Я.Купалы (актавая заля) па адрасе: вул.В.Харужай, 16. Пачатак лекцыяў а 18:30. Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэл: 256-36-13.**

# Бесконечная история

**Николай ХАЛЕЗИН**

**Забористый мужской поцелуй белорусского и российского президентов ознаменовал собой начало нового приступа интеграционной лихорадки. Президенты проговорили два часа, подписали 11 документов и разъехались, предварительно наговорив глупостей журналистам. Ельцин остался в Москве, а Лукашенко вернулся в Минск, который пока является столицей нашего государства. Но, возможно, столицей он будет лишь до конца 3-го квартала этого года.**



## У кого что болит

К нынешней встрече президенты пришли не с самыми лучшими показателями. Лукашенко привез с собой «хвост» из непризнанных в цивилизованном мире палат парламента и справедливых упреков в несоблюдении прав и свобод белорусских граждан. Ельцин же встречал белорусского президента в виде тугого соображающего дедушки Ленина, к которому в Горки приехал моложавый Сталин. В глазах российского президента не прочитывалась даже угроза импичмента.

Союзные президенты, как выяснилось, по-прежнему имеют разные взгляды на объединение двух государств. Лукашенко пытается создать еще один элемент вертикали – должность союзного президента, стоящего над президентами Беларуси и России и имеющего свой собственный аппарат управления. Проект Ельцина – это, как назвал его Лукашенко, «политбюро» в виде Высшего Совета, который собирается время от времени и коллегиально решает задачи Союза. Оба проекта порочны изначально.

Вариант, который привез Лукашенко, лишь повторяет схему управления СССР в период с 1987 по 1991. О том, насколько она была эффективной и как закончила свое существование, лучше спросить у Михаила Горбачева, ведущего жизнь тихого пенсионера. А вариант Ельцина – это вариант, подобный нынешнему существованию наших государств, где при всей самостоятельности Беларуси Россия держит ее на «коротком поводке» своей внешней политики.

## Скоростная интеграция

Интересы двух президентов настолько разнятся, что перспективы союза пропадают в тумане недалекого будущего. Борису Ельцину союз в виде альянса двух государств не нужен по причине моментального распада России на десяток самостоятельных стран. Президенты Татарстана и Ингушетии уже предупредили Бориса Ельцина об ошибочности данного проекта. И заявили о том, что, если будет заключен союз между Россией и Беларусью в том виде, на котором настаивает белорусский президент, то они потребуют заключения нового федеративного договора с расширением своих прав до уровня белорусских. Следует отметить, что Татарстан и Ингушетия – это не Рязанская и Тульская области. Россия существует до тех пор, пока из ее состава не захотели выйти татары.

У президента Беларуси ситуация гораздо хуже, чем у его российского коллеги. Лукашенко торопится. У него нет времени. У россиян время есть. Им не до объединительных проектов – на носу парламентские, а затем и президентские выборы. У Лукашенко на носу неприятности.

## 20 июля

Чем же так страшна для белорусского президента дата 20 июля? Лукашенко теряет свою легитимность после того, как наступит утро 21 июля 1999 года. После наступления этой даты, по словам одного американского политика, Лукашенко «не пустят даже в duty free». Потому он и твердит через слово о том, что все надо делать очень быстро, и о том, что «у нас нет времени».

Но не только этот роковой день беспокоит пока легитимного главу государства. Экономическая ситуация может привести к дестабилизации в стране. Курс рубля, после удвоения минимальной заработной платы, очень скоро перепрыгнет отметку в 500 тысяч за доллар и начнет приближаться к на днях выпущенной миллионной купюре. Чем чревато быстрое обеднение населения — объяснять нет нужды. К осени экономическая ситуация обещает стать катастрофической. Единственным выходом для Лукашенко становится уход из Беларуси на какой-либо пост в объединенном государстве.

Белорусский президент давно понял, что Россия не станет помогать ему деньгами. Во-первых, потому, что у самой России нет денег, а во-вторых, на Москву давят кредиторы, которые стали оговаривать при даче кредитов отказ России от помощи Беларуси. Во время недавнего визита первого заместителя госсекретаря США Строуба Тэлботта в Москву этот вопрос также поднимался. Россия, чувствующая себя экономически не лучше Беларуси, скорее всего не станет портить отношения с американцами, являющимися основными донорами Международного валютного фонда. К тому же один из ключевых игроков на поле белорусско-российской интеграции Евгений Примаков не чувствует себя так уверенно, как чувствовал сразу после назначения на пост премьер-министра.

Скорость белорусскому президенту придает и новая доктрина NATO, озвученная на 50-летии этой организации. В этом документе перечислены конфликты, в которые может вмешиваться североатлантический альянс. В список конфликтов входят «конфликты на этнической почве» и «конфликты, вызванные ухудшением экономической ситуации». Белорусскому президенту не повезло, – если он захочет разогнать профсоюзную манифестацию или будет по-прежнему притеснять польское национальное меньшинство, – к нему в огород может залететь натовский «Томагавк».

## Эскалация

Все последние интеграционные проекты заканчивались серьезными неприятностями для страны. Вдоль маршрута «Резиденция президента – Дрозды» давно пора развесить плакаты «Объединительные инициативы опасны для вашего здоровья!». Все террористические акты в Беларуси происходили тогда, когда Лукашенко объявлял «о дальнейшем единении с братским народом», либо летал в Москву на подписание очередного интеграционного проекта. 1997 год войдет в историю как «партизанский». В конце марта из автомата было обстреляно российское посольство, в начале апреля произошло грандиозное побоище демонстрантов с минским ОМОНом, в начале мая был взорван газопровод, а осенью – здание Советского суда города Минска. Что-то подобное может начаться и теперь — ведь угроза суверенитету Беларуси возникла вновь.

Белорусский президент начал опасную игру. Если она закончится ничем, как и все предыдущие, то можно будет вздохнуть с облегчением. Если же Лукашенко в цейтноте захочет слить суверенитет, то мы станем свидетелями тотальной нищеты, становления партизанского движения и волны эмиграции, накатывающей на западную границу нового СССР. ■

ПАЛЕМІКА

# Кулаковский против Геремека

**Иван БАБИЧЕВ**

В Варшаве продолжает свою работу семинар ОБСЕ на тему «Права человека — роль миссий на местах». Его организаторы уделили белорусской проблематике значительное внимание. Так, например, из 30 официально приглашенных представителей общественных организаций из различных стран Европы 10, то есть одна треть, представители Беларуси.

Не обошли вниманием Беларусь также официальные лица, принявшие участие в семинаре. Так, 28 апреля в своем выступлении по случаю начала работы семинара министр иностранных дел Польши профессор Бронислав Геремек, в частности, сказал: «Я очень обеспокоен тем, что есть страны даже в Центральной и Восточной Европе, где политических противников все еще сажают в тюрьмы, свобода слова не соблюдается, стандарты демократических выборов не уважаются. Ситуация в Беларуси вызывает обоснованную обеспокоенность. Это отрицательно влияет на стабильность в регионе и в Европе в целом. Мы, в частности, отмечаем такие факты, как арест бывшего премьер-министра Михаила Чигиря. Преследуемые должны чувствовать, что ОБСЕ находится на их стороне».

Высказывание польского министра иностранных дел прокомментировал член официальной белорусской делегации, председатель комиссии по правам человека Палаты представителей Национального собрания Юрий Кулаковский. Он сказал: «Я думаю, что господину Геремеку следовало сначала поинтересоваться причинами ареста Чигиря. Это не такой уж неординарный случай, когда бывшие премьер-министры попадают под следствие. Ведь, например, бывшего премьера Украины Лазаренко ищет сейчас вся Европа. Были также претензии и к премьеру Японии. А Чигирь начал активно заниматься политикой, когда почувствовал следствие. Я думаю, что в данном случае мы имеем дело с политикой двойных стандартов и двойных подходов. Нас это очень обеспокоило, потому что Польша — это соседняя с нами страна».

Высказывание Бронислава Геремека согласился также прокомментировать представитель правозащитного центра «Весна-96» Юрась Беленький: «Господин Геремек отметил, что на Беларуси нарушаются права человека, и как пример привел содержание в тюрьме Михаила Чигиря. Это был единственный пример во время доклада. Это значит, что это было сделано не просто так, а со специальным акцентом. И такое высказывание бывшего председателя ОБСЕ, а сейчас министра иностранных дел Польши показывает отношение ОБСЕ к ситуации в Беларуси. Это не частное мнение господина Геремека, и это следует трактовать как общую обеспокоенность всех цивилизованных стран ситуацией на Беларуси». ■

МНЕНИЕ СТРАНЫ

**Мы продолжаем публикацию результатов социологических исследований, которые проводит наш партнер — лаборатория «НОВАК» Андрея Вардамацкого.**

# Хотим ли мы объединения с Россией?




Если суммировать сторонников объединения Беларуси и России в одно государство, то таковых 44,8% граждан Беларуси, в том числе 37,5% минчан. Противников объединения — 43,6% белорусов (49,7% жителей столицы). Налицо отсутствие перевеса у какой-либо из сторон, а, следовательно, некорректна постановка вопроса руководством страны об объединении государств. ■

